**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№51 (715) 19 снежня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Самадзейны мастак Віктар Дудкевіч прэзентуе свае работы на адкрыцці выставы ў Глыбоцкім Доме рамёстваў.**
*Працяг тэмы на стар. 5. Фота Ул. Скрабатуна.*

## Лепельскі раён

# Абмялелі “малочныя рэкі”

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўсім свеце вытворцы працуюць найперш для задавальнення патрэб сваіх спажыўцоў.**

Іншая справа - наша краіна з яе архаічнай адміністрацыйна-каманднай эканомікай, якая стала прабуксоўваць. Таму не дзіўна, што сёлета напрыканцы восені паўсюдна ад сталіцы да глыбінкі ў магазінах не заўсёды можна было купіць малако, істотна скараціўся і асартымент малочных прадуктаў. Не пазбегнуў гэтых праблем і Лепельскі раён, хоць ён і мае свой буйны малочнакансервавы камбінат. Аднак тут горш таго, дырэкцыя прадпрыемства разаслала многім сваім партнёрам дзіўныя паведамленні ад прыпыненні адгрузкі цэльнамалочнай прадукцыі. Праўда, на мясцовым МКК не сталі хаваць праўду, а шчыра паведамілі спажыўцам, што такі крок выкліканы паступіўшым загадам аб павелічэнні дзяржзаказу на выраб і пастаўкі сухога малака ў Венесуэлу. Тым часам і іншыя вытворцы абласнога мясамалакапрама, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, сталі нарошчваць пастаўкі малака за мяжу, а найперш у Расію, бо ім гэта эканамічна значна выгадней з-за вышэйшых цэн. На Віцебшчыне практычна спыніліся нават унутрыабласныя пастаўкі малочнай прадукцыі, бо і з калгасных ферм цяпер паступае значна меней сыравіны, чым летам. На малаказаводах адчуваюць недахоп малака ўжо каторы месяц, знізілі надоі сёлета больш 60 раёнаў краіны. Дарэчы, у гэтым годзе па надоях малака Віцебская вобласць – апошняя ў Беларусі з аб’ёмам вытворчасці 94,3 % да ўзроўню мінулага года. У Лепельскім раёне дапушчана яшчэ большае падзенне надояў ад кожнай каровы – на 310 кг.

## Чашніцкі раён

# Нічога не прадвяшчала бяды

■ Чэслаў Якубовіч

**Сапраўдныя дакументальныя фільмы жахаў зараз можна здымаць у апусцеўшых і абязлюдзеўшых беларускіх вёсках, адкуль прыходзяць патокам жахлівыя навіны.**

Вось і ў вёсцы Павулле Чашніцкага раёна напярэдадні зімовых халадоў засталася без даху над галавой пажылая пенсіянерка. Акрамя гэтага ў іншы свет адправіліся разам яшчэ трое мясцовых мужчын, уключаючы яе другога, 36-гадовага сына. Год назад гэта жанчына ўжо пахавала яго старэйшага брата. З гэтай нагоды ў бацькоўскім доме вырашылі адзначыць памінкі па памерлым, якія пераўтварыліся ў звычайную п’янку з удзелам суседзяў, родных і знаёмых. Ды і адносіны паміж блізкімі людзьмі тут былі напружанымі, калі не варожымі. Як часта гэта бывае ў асобных гора-сем’ях, малодшы сын стаў збіваць падчас спрэчак сваю матулю. У рэшце рэшт сялянка пайшла з дому, часова стала пражываць на працягу тыдня ў лазні сваёй суседкі, што і выратавала ей жыццё. А ў дзень трагедыі не Богу маліліся, успамінаючы памерлага, а пілі без меры гарэлку. Калі сцямнела, многія пайшлі дадому, а сын застаўся ў хаце разам з яшчэ чатырма сабутэльнікамі. Усім месца не хапіла на ложках, і адзін з кампаніі прылёг на печы. Як высветлілася потым, адтуль і пачаўся агач узгарання. Праўда, трое мужчын густы дым пачулі, прачнуліся і выбеглі з памяшкання. Адзін з іх успомніў, што ў пакоі засталіся яшчэ двое землякоў і захацеў ім дапамагчы. На жаль, ён і сам загінуў, і нікога не выратаваў. Да прыезду пажарных у палаючай хаце ўжо былі тры трупы, а з-за неасцярожнасці пры курэнні на падпітку гасцей старая стала пагарэліцай.

## Докшыцкі раён

# Прыродны газ не раскоша

■ Кастусь Александровіч

**У наш час практычна не засталося ніводнай кватэры альбо жылога дома, дзе б не карысталіся газам для бытавых патрэб.**

Усё больш і вяскоўцаў марыць аб тым, каб і да іх быў падведзены прыродны газ, аб чым засведчыў праведзены дзень Тумілавіцкага сельсавета, што ў Докшыцкім раёне. Адзін з мясцовых жыхароў звярнуўся з просьбай да кіраўніцтва раёна аб стварэнні тут кааператыва і ўключэнні цэнтра сельсавета ў праграму газіфікацыі Бярэзінскага краю. Мясцовыя жыхары пераканаліся, наколькі зручныя для паўсядзённага жыцця падобныя даброты цывілізацыі, якія займелі землякі з размешчаных у сельсавеце па суседстве аграгарадку Таргуны і вёскі Гліннае, куды ўжо падведзена “блакітнае паліва”. Як толькі людзі потым даведаліся, што ў райцэнтры правядзе выязны прыём іх дэпутат, старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка, яны звярнуліся і да кіраўніка беларускага парламента. Адзін з самых аўтарытэтных мясцовых жыхароў перадаў уплывоваму госцю са сталіцы калектыўны зварот 43 чалавек, каб і ў Тумілавічы падвялі прыродны газ. Вяскоўцаў не спыняе, што праз некалькі гадоў яго кошт можа сур’ёзна ўзрасці і танней будзе карыстацца дрывамі альбо торфабрыкетам. Дарэчы, у раёне зараз створаны ўжо 25 кааператываў, а сёлета работы па газіфікацыі былі завершаны толькі ў двух з іх. Утварылася нават адчувальная чарга, а на выязным прыёме спікер абнадзеіў жыхароў Сітцаў, дзе пра газ мараць яшчэ больш 70 сем’яў. У гэты аграгарадок прыродны газ падведзены, і ў будучым годзе работы па дадатковай газіфікацыі там могуць быць завершаны.

# Аб самым надзённым

## ІНФЛЯЦЫЯ СЁЛЕТА ПЕРАВЫСІЛА АФІЦЫЙНЫ ГАДАВЫ ПРАГНОЗ ПРАВАЛЬНАГА ПА БОЛЬШАСЦІ ПАРАМЕТРАЎ ГОДА



■ Аляксандр Цішкевіч

**У выніку сталі гаварыць, што Беларусь на парозе рэцэсіі, а ў пачатку каляндарнай зімы рост цэн дасягнуў з пачатку года 13,8% пры гадавым максімальным прагнозе інфляцыі 12 % ( у канцы года будзе нават 15-16 %).**

Напрыканцы адыходзячага года на ўсіх узроўнях у Беларусі ўпраўленцы актывізаваліся, правялі ў сталіцы ўпершыню ў Палацы Незалежнасці чарговую і вельмі маштабную нараду па пастаноўцы, як называлася, прыярытэтных задач перад кадрамі “вертыкалі”. У нас на Віцебшчыне першымі ў краіне сталі праводзіць пасяджэнні аблвыканкама ў сучасным рэжыме відэаканферэнцсувязі. І ўжо на вышэйшым узроўні гаворыць горкую праўду, што так і не пабудавалі стройную сістэму дзейнасці, многае робіцца наскокамі і ад выпадку да выпадку.

Недахопы і праблемы зараз вылазяць, сапраўды, адысюль і практычна трэць айчынных прадпрыемстваў з 2820, як далажыў віцэ-прэм’ер П. Пракаповіч, па розных прычынах так і не пачалі намечаную мадэрнізацыю. Прэзідэнт з гэтай нагоды стаў непакоіцца, што і на абноўленых заводах з добрым абсталяваннем заўтра могуць заваліць склады і не змогуць прадаць выпушчаную прадукцыю. Такая пагроза, дарэчы, існуе, што пацвярджае абстаноўка на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі, якіх у нас многа і стала цяжка рэалізаваць ім свае вырабы. У выніку сталі гаварыць, што Беларусь на парозе рэцэсіі, а ў пачатку каляндарнай зімы рост цэн дасягнуў з пачатку года 13,8 % пры гадавым максімальным прагнозе інфляцыі 12 % ( у канцы года будзе нават 15-16 %).

У лістападзе для беларусаў даражэлі па ранейшым усе прадукты, найбольш бульба (амаль на 6 %) і толькі алей патаннеў на 1 %. Для насельніцтва сталі даражэйшымі напрыканцы восені таксама і нехарчовыя тавары, а найбольш – медыкаменты, сінтэтычныя мыйныя сродкі, мэбля. Таксама каторы месяц раслі цэны на паліва, на пасажырскія перавозкі, на платныя паслугі і жыллёва-камунальныя паслугі. Для насельніцтва, дарэчы, пастаянны рост тарыфаў на паслугі ЖКГ – даўно ўжо не навіна, але ў пачатку снежня з’явіўся нават спецыяльны Указ № 550, які закрануў практычна ўсіх кватэраздымшчыкаў.

Галоўная асаблівасць гэтага дакумента ў тым, што беларускі ўрад будзе ўстанаўліваць толькі тарыфы на забеспячэнне спажыўцоў электраэнергіяй, газам і цяплом. На ўзровень аблвыканкамаў і сталічных улад перадалі пытанні зацвярджэння тарыфаў на водазабеспячэнне, тэхабслугоўванне і капрамонт жылфонда, платы за карыстанне ліфтамі і за вываз смецця. Праўда, апошняе хутчэй усяго ўведзена для замежных фінансавых экспертаў, бо хто з суайчыннікаў паверыць, што нейкі з кіраўнікоў на месцах рашыцца самастойна прымаць такія рашэнні без узгаднення з “цэнтрам” правячай жорсткай вертыкалі ўлады.

У гэтым Указе так і прапісалі, што мясцовыя ўлады павінны ўзгадняць свае тарыфы з Міністэрствам эканомікі Беларусі, якое самастойна мала што можа вырашыць. Хоць у нас самыя разумныя прагназавалі хуткі крах замежнай валюты з-за акіяну, але паказчык 5 долараў стаў вызначальным эквівалентам пры вызначэнні штогод росту тарыфаў ЖКГ.

Штогадовым вызначэннем таго, колькі павінны плаціць сем’і, зыходзячы з сярэднегадавога абменнага курсу да долара, займуцца адразу чатыры міністэрствы. У любым выпадку беларусам трэба рыхтавацца да таго, што з новага года за кватэру трэба будзе плаціць болей на некалькі дзясяткаў тысяч рублёў.

Нам можна толькі супакоіцца, што да 100-працэнтнага пакрыцця жыллёва-камунальных паслуг яшчэ далёка. Не пацягнуць беларусы рэальныя тарыфы з-за сваіх самых нізкіх у Еўропе заробкаў і маленькіх пенсій. А вось адрасная сацыяльная падтрымка малазабяспечаных знізіцца, адбор для яе аказання будзе больш пільным і дэталёвым. Палітолагі загаварылі, што такі дакумент з’явіўся невыпадкова, ён адзін з першых напярэдадні новай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2015 года. З іншага боку будаўніцтва жылля на льготных умовах фактычна спынілі ды і адчувальнага росту зарплат у наступным годзе не будзе.

А вось так хай людзі супакояцца, бо пры пагаршэнні эканамічнай сітуацыі праўжыць неяк удасца, калі маеш нейкую працу. У нас жа эканамічны рост проста спыніўся, слаба прадаюцца беларускія тавары, а наяўны дзяржаўны доўг амаль у 2 разы перавышае золатавалютныя рэзервы. Жывём мы нібыта на парахавой бочцы і не ведаем, калі можа ірвануць, калі аслабне і рэзка дэвальвуецца беларускі рубель. Пакуль жа перад светлымі каляднымі і навагоднімі святамі павінна ў краіне пачацца кампанія па перадвыбранні мясцовых Саветаў дэпутатаў. Іншае пытанне, што такія прадстаўнічыя органы мала ўплываюць на вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.12.13 | | | | Пятніца 20.12.13 | | | | Субота 21.12.13 | | | | Нядзеля 22.12.13 | | | | Пнд.23.12.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +1 | 0 | -1 | -2 | -1 | -2 | -1 | -1 | +1 | +1 | +1 | +1 | +2 | +1 | +1 | +2 | +3 |
| Ціск | 755 | 754 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 753 | 753 | 754 | 755 | 755 | 753 | 751 | 750 | 749 | 748 | 747 | 747 |
| Вільготнасць | 95 | 96 | 94 | 91 | 92 | 89 | 85 | 90 | 98 | 93 | 89 | 90 | 90 | 89 | 69 | 77 | 96 | 96 | 83 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 4 Пд | 6 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд | 1 Пд | 2 З | 4 З | 5 З | 6 Пд-З | 6 З | 7 Пд-З | 8 Пд-З | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 9 Пд-З |

## Дзень за днём

**На выплаты па знешнім доўгу ўраду Беларусі ў 2014 годзе трэба мець 3,2 млрд. долараў, што на 0,7 млрд. USD болей, чым сёлета, а грошай на гэта ў дзяржбюджэце няма. Расія прадоўжыла і на 2014 год пагадненне з Беларуссю па нафтавых пошлінах, аднак штогод мы пералічваем у расійскі бюджэт да 4 млрд. USD. У снежні дабавілі 1 млн. тон нафты, але сёлета расійскія пастаўкі яе зменшыліся амаль на 4 млн. тон. З новага года айчынная будаўнічая галіна стане працаваць па новых правілах. Яшчэ на паўгода далі айчынным прадпрымальнікам адтэрміноўку з сертыфікатамі на тавары. Медалістаў у педагагічныя ВНУ вырашана браць на вучобу без экзаменаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Кіраўнік еўрапейскай дыпламатыі Кэтрын Эштан пацвердзіла, што Еўрасаюз не будзе нічога змяняць у Пагадненні аб асацыяцыі і зоне свабоднага гандлю з Украінай.

**Венесуэла.** На фоне сур'ёзнага эканамічнага крызісу апазіцыя выйграла выбары мэраў 53 муніцыпалітэтаў краіны, у тым ліку ў сталіцы Каракасе і ўсіх буйнейшых гарадах .

**ЗША**. Прэзідэнт Б. Абама папярэдзіў Іран, што калі за паўгода ён не выканае свае абавязкі па сваёй адмове ад ядзернай праграмы, то ЗША яшчэ больш узмацніць механізм санкцый.

**Германія**. Урад краіны па пагадненні з партнёрамі ад СДПГ увёў адзіны для немцаў узровень мінімальнай пагадзіннай аплаты працы ў памеры 8,5 еўра ва ўсіх рэгіёнах.

**ПАР.** На 96-м годзе жыцця памёр першы чорнаскуры прэзідэнт краіны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Нэльсан Мандэла, які быў вялікім змагаром за свабоду людзей.

**Грузія.** Новы глава МЗС Майя Панукідзе назвала ўмовы аднаўлення дыпадносін з РФ – вывад адсюль расійскіх войск і адмова ад прызнання Расіяй Абхазіі і Паўднёвай Асеціі.

**Тайланд.** Пасля двух тыдняў антыўрадавых выступленняў дэманстранты дабіліся роспуску парламенту і правядзення праз 60 дзён датэрміновых парламенцкіх выбараў.

**Венесуэла.** Падчас выступлення па тэлебачанні прэзідэнта-папуліста М. Мадуры па ўсёй краіне адключылася святло, перабоі з электразабеспячэннем тут частыя з-за старых ліній электраперадач.

**Ісландыя.** Упершыню ў гісторыі краіны ў яе сталіцы Рэйк'явіку паліцыя застрэліла злачынцу, ён у сваёй кватэры пачаў па незразумелай прычыне страляць па вуліцы з ружжа.

**Італія.** Супраць былога прэм'ера 77-гадовага Сільвіо Берлусконі пасля пазбаўлення мандата дэпутата Сената працягнулі следства яшчэ па 4-х крымінальных справах.

**Малдова.** Канстытуцыйны суд краіны прызнаў румынскую адзінай дзяржаўнай мовай, яго рашэнне з'яўляецца канчатковым і ніякаму абскарджанню не падлягае.

**Украіна.** На фоне шматтысячнага мітынгу на майдане Незалежнасці вечарам у цэнтры сталіцы пратэстоўчыя з партыі "Свабода" знеслі нарэшце і разбілі помнік Леніну.

**Германія.** Вечарам падчас аварыі на хімічным заводзе горада Эсслінген на Некарэ пацярпелі 27 чалавек, у суседняй Бельгіі з-за туману на адной трасе сутыкнуліся 100 аўтамабіляў.

**Казахстан.** У горадзе Усць-Каменагорску ААТ "АўтаВАЗ" пачаў будаўніцтва новага завода па выпуску з 2016 года легкавых аўтамабіляў бюджэтнага класу Lada Granta.

**Літва.** Літоўская чыгунка сумесна з калегамі з Беларусі запусціла новы праект – канрэйлернь поезд "Нямунас" па перавозцы грузаў і аўто на спецыльных платформах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У Беларусі, як заявіў міністр адукацыі С. Маскевіч, трэба ўпарадкаваць сістэму навучання, бо ў 322 школьных класах вучацца па 1 вучні, якіх вучаць 600 настаўнікаў.

**Барысаў.** Пасля амаль паўгода зняволення КДБ Беларусі выпусціў з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе мясцовага ксяндза У. Лазара за перадачу быццам грошай нейкаму шпіёну.

**Салігорск.** На "Беларуськаліі" заявілі аб аднаўленні сваёй долі на рынках продажу калію, аднак гадавая выручка крыху больш 2 мільярдаў долараў стане самай нізкай за апошнія гады.

**Слонім.** Вечарам у галоўным вытворчым корпусе мясцовага масласырзавода з-за скачка напружання адбыўся выкід аміяку, на шчасце, ніхто з рабочых і служачых не пацярпеў.

**Светлагорск.** Настаўніца СШ № 10 Надзея Сафроненка заявіла ў Мінску на парламенцкіх слуханнях, што сітуацыя ў жабрацкіх беларускіх школах проста катастрафічная.

**Мінск.** Новаядзяржаўная пошліна на транспарт, як фактычна прызнаў намеснік міністра фінансаў РБ М. Ермаловіч, можа стаць адной з крыніц латання дзірак у дзяржаўным бюджэце.

**Гродна.** У мясцовым ваенным шпіталі найбольш парадаваліся за 54-гадовага генерала А. Мяжуева, новага дзяржсакратара Савета Бяспекі, ён раней дапамог захаваць медустанову.

**Маладзечна.** Чэмпіён Паралімпійскіх гульняў у Пекіне плывец Дзмітрый Салей вырашыў канчаткова выступаць за Азербайджан з-за лепшых там адносін да атлетаў-інвалідаў.

**Гомель.** Двое семігадовых хлопчыкаў праваліліся пад тонкі лёд у пратоцы і патанулі, іх равеснік у Лельчыцах правёў у каналізацыі па калена ў халоднай вадзе 10 гадзін.

**Брэст.** Пасля рэканструкцыі ў гарадской бальніцы № 1 адкрылі тры аддзяленні, з іх адно з новым камп'ютарным тамографам коштам 11 мільярдаў рублёў, ён выяўляе рак на ранняй стадыі.

**Барысаў.** Па ўказанні А. Лукашэнкі па факце зрыва мадэрнізацыі "Барысаўдрэва" распачалі на прадпрыемстве крымінальную справу, яе прававое абгрунтаванне сумніўнае.

**Курапаты.** Навуковаметадычны савет па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры РБ скарацію ахоўную зону ўрочышча сталінскіх расстрэлаў.

**Вілейка.** Вясковую жанчыну нахабна абакралі днём дзве жанчыны, якія прадставіліся "сацыяльнымі работнікамі" і пад размовы аб дэнамінацыі забралі ў яе 3 мільёны рублёў.

**Гомель.** Каля апоўначы на адной з вуліц абласнога цэнтра знайшлі цела жоркстка забітага нажом 34-гадовага таксіста, у 1 км ад месца здарэння потым адшукаўся яго Опель.

**Мінск.** Славуты ў мінулым ФК "Дынама" з пачатку стагоддзя звольніў ужо 27-га па ліку галоўнага трэнера 44-гадовага галандскага футбольнага спецыяліста Роберта Маасканта.

# Падатак на дармаедаў адклалі да лепшых часоў



■ **Анастасія Гурына, Штодзённік**

**Падатак на дармаедства пакуль уводзіцца не будзе, бо не прыдуманы механізм выяўлення дармаедаў. Законапраект пакуль нават не значыцца ў планах на 2014 год.**

Не так даўно ўрад прыдумаў шэраг крэатыўных рашэнняў, як папоўніць бюджэт новымі падаткамі. Было прапанавана абкласці зборамі ўладальнікаў аўтамабіляў, а таксама беспрацоўных, якія ўхіляюцца ад працы без аб'ектыўнай прычыны. Як ужо вядома, першая ідэя знайшла сваё ўвасабленне ў праекце бюджэту на 2014 год. Падатку на дармаедаў пакуль спраўдзіцца не дадзена. Урад яшчэ не вырашыў, якім чынам такую ідэю рэалізаваць. Як паведаміў «Штодзённіку» намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па бюджэце і фінансах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Аляксандр Мякінік, прапанова абкласці пошлінай беспрацоўных не ўключалася ні ў праект бюджэту, ні ў праекты паправак у Падатковы кодэкс, а таму дэпутаты яго не разглядалі. На думку дэпутата, дадзеная прапанова мае шэраг слабых бакоў. Па-першае, у Беларусі не працуюць многія жанчыны. Але не працуюць яны не таму, што не жадаюць, а таму, што няма з кім пакінуць дзяцей. «Калі б мы забяспечылі краіну патрэбнай колькасцю дзіцячых садоў, туды не было б чэргаў, тады мы маглі б сказаць: вось, яна не хоча працаваць! Пакуль мы такіх умоў не стварылі», - адзначыў дэпутат. На думку дэпутата, сёння ў катэгорыю дармаедаў можна смела ўключаць толькі асацыяльныя элементы - алкаголікаў, бамжоў. «Але ў іх і так вялікія запазычанасці па штрафах, па пазбаўленні бацькоўскіх правоў, і гэтак далей, - падкрэсліў Аляксандр Мякінік. - Мы на іх яшчэ больш цяжар павесім, а спагнаць запазычанасць магчымасці не будзе». Дэпутат адзначыў, што падстава для ўвядзення падобнага закона ўсё ж ёсць : у выглядзе несправядлівасці ў адносінах да сумленных падаткаплацельшчыкаў. Маўляў, нехта плаціць падаткі, а хтосьці з'ехаў у Расію на нелегальную падпрацоўку. «А па пенсію ён сюды вернецца!» - Абурэцца дэпутат. Аднак аднавіць справядлівасць цяпер няма магчымасці з-за непрапрацаванага механізму па выяўленні такіх грамадзян. «Калі б механізм быў адпрацаваны, можа быць, і нарадзіўся закон», - выказаў меркаванне Аляксандр Мякінік. Нагадаем, не так даўно ў Міністэрстве фінансаў заяўлялі, што рыхтуюць праект указа, які прадугледжвае спагнанне платы з грамадзян, якія не працуюць і не плацяць падаткі, але з'яўляюцца спажыўцамі сацыяльных паслуг. Меркавалася, што гэтыя асобы будуць штогод выплачваць 2,6 мільёнаў рублёў у бюджэт. Гэтыя сродкі планавалася накіраваць на выдаткі ў сацыяльнай сферы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за нізкіх надояў на фермах вобласці і павелічэння экспарту ў Расію ў многіх магазінах вобласці ўзніклі перабоі з пастаўкамі малака, істотна зменшыўся асартымент.

**Талачын.** Дзяржкаммаёмасць РБ падрыхтавала пакет дакументаў аб прамым продажы акцый Коханаўскага экскаватарнага завода, яго можа набыць холдынг "Амкадор".

**Паставы.** Да прыёмкі ўрадажаю 2014 года мясцовы льнозавод, пацвердзіў прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч, будзе мадэрнізаваны разам з такім жа заводам у Аршанскім раёне.

**Браслаў.** У прыгарадным Слабодскаўскім сельсавеце з маляўнічай прыродай і азёрамі сёлета ўзвялі 16 дамоў катэджнага тыпу, з іх – толькі трэць з дзяржпадтрымкай.

**Віцебск.** Упершыню ў краіне пасяджэнне аблвыканкама правялі ў рэжыме відэаканферэнцсувязі, выкарыстоўваць сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі даручана іншым службам.

**Докшыцы.** Торфаперапрацоўчы завод у Крулеўшчыне адгрузіў сёлета за мяжу на экспарт верхавога прасаванага торфу і грунтоў з дабаўкамі больш чым на 3 мільёны долараў.

**Расоны.** Ураганны вецер парывамі 24 м/сек моцна пашкодзіў дах на ферме ў вёсцы Янковічы, яе работнікі і жывёла не пацярпелі, без святу ў вобласці былі 427 паселішчаў.

**Верхнядзвінск.** Міліцыя затрымала 27-гадовага жыхара вёскі Садкоўшчына, які ў гневе пасварыўся і ўдарам нажа забіў 50-гадовага земляка, забойцу цяпер пагражае да 15 год турмы.

**Віцебск.** Махляры з Расіі на 37,5 тысяч долараў падманулі пажылую пенсіянерку і пад выглядам "цуда-таблетак" прадалі ёй звычайныя харчовыя біялагічныя дабаўкі.

**Глыбокае.** З-за даўгоў энерганагляд адключыў у вёсцы Дзеркаўшчына магазін "Пятачок" ААТ "Канстанцінаў Двор" ад падачы электраэнергіі, раней гэты калгас быў вельмі моцны.

**Лепель.** На тэрыторыі раёна 58-гадовы вадзіцель з боку Оршы ў 8 гадзін раніцы збіў насмерць 30-гадовую жанчынувеласіпедыстку, якая была ў сігнальным жылеце.

**Чашнікі.** Жыхарка вёскі Павулле страціла за год двух сыноў, пасля памінак па старэйшым яго малодшы брат загінуў ноччу на пажары з-за курэння ў ложку на падпітку.

**Наваполацк.** Выпускнік СШ №3 і БДЭУ 25-гадовы кібернетык-эканаміст Максім Канавал выйграў 6-ы сезон украінскага тэлешоу "Рассмяшы коміка" і 50 тысяч грыўен (6,2 тысячы долараў).

**Браслаў.** За крадзеж посуду і старой мэблі суд пакараў былога дырэктара турбазы "Браслаўскія азёры" 3 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавору на 2 гады.

**Віцебск.** Шматпакутны ФК "Віцебск" стаў адным з самых бедных клубаў краіны, адгуляў сезон без прэміяльных, страціў лепшых ігракоў, аб вяртанні ў эліту і не варта думаць.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Ранняя падкормка можа нашкодзіць вадаплаўным птушкам, папярэджваюць арнітолагі



Шмат качак зімуе ў Глыбокім на рэчцы Беразвіца. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Ранняя падкормка можа нашкодзіць вадаплаўным птушкам, папярэджваюць прадстаўнікі ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ).**

"Не ўсіх птушак, якіх можна сустрэць у Беларусі ў пачатку зімы, трэба падкормліваць", — гаворыцца ў паведамленні АПБ.

Паводле звестак арнітолагаў, такія птушкі, як сініца, верабей, дубанос, зелянушка, з'яўляюцца аселымі і ў любым выпадку застануцца зімаваць у Беларусі, аднак шэраг вадаплаўных (напрыклад лебедзі) уляцяць, як толькі зразумеюць, што ўжо не здольныя пракарміцца на гэтай тэрыторыі.

Спецыялісты адзначаюць, што дробных птушак падкормліваць можна ўжо цяпер, развешваючы кармушкі на дрэвах і за акном, але вадаплаўным такая ранняя падкормка нанясе толькі ўрон. "Людзі часта падкормліваюць іх у добрае надвор'е, а птушкі, вырашыўшы, што корму хопіць, застаюцца зімаваць. А вось калі дапамога ім сапраўды неабходная (моцныя снегапады, экстрэмальныя маразы), яны застаюцца самі па сабе, бо мала хто пойдзе ў мяцеліцу да вадаёма, каб пакарміць лебедзя або качку", — адзначаюць у АПБ.

Арнітолагі рэкамендуюць карміць вадаплаўных птушак толькі з наступленнем моцных маразоў.

***Анастасія Салановіч, БелаПАН.***

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) выбрала птушкай 2014 года ў Беларусі зязюлю звычайную.**

# Птушкай 2014 года ў Беларусі выбрана зязюля

**У рамках кампаніі «Зязюля — птушка 2014 года» будзе арганізаваны шэраг конкурсаў і мерапрыемстваў, накіраваных не толькі на прыцягненне ўвагі да праблем гэтага віду, але і на змяненне яго адмоўнага іміджу, адзначаецца ў паведамленні АПБ.**

«Зязюлю выбралі птушкай 2014 года не выпадкова. Мы стараемся акцэнтаваць увагу на тых птушках, якія вядомыя шырокаму колу людзей і маюць пэўныя прыродаахоўныя патрэбы. Тады кампанія не толькі дасць магчымасць усім ахвотным удзелу ў конкурсах і мерапрыемствах, але і будзе спрыяць захаванню віду», — адзначыла супрацоўніца АПБ Ганна Трафімчук.

У 2013 годзе Беларусь далучылася да міжнароднай праграмы па спадарожнікавым сачэнні за звычайнай зязюляй. З дапамогай замацаваных на птушках спецыяльных датчыкаў атрымліваюць інфармацыю пра месцазнаходжанне зязюль у рэжыме рэальнага часу, што дазваляе вызначыць шляхі іх міграцыі і месца зімоўкі. Датчыкі ўжо з'явіліся на пяці беларускіх зязюлях, а у новым годзе плануецца далучыць да праекта яшчэ дзесяць птушак.

«Лічыцца, што зязюлі — нашы птушкі, беларускія, але ў Беларусі яны праводзяць толькі тры месяцы ў годзе. Большую частку года яны мігруюць альбо знаходзяцца на зімоўцы ў Афрыцы. Таму праз зязюлю мы хочам яшчэ раз звярнуць увагу на значнасць міграцый і зімовак для птушак. На тое, што захаванне міграцыйных відаў магчыма толькі ў трансгранічным кантэксце», — распавёў дырэктар АПБ Віктар Фянчук.

Як паведамілі ў АПБ, у сувязі са зменай практык вядзення сельскай гаспадаркі колькасць зязюль у Еўропе скарачаецца, аднак у Беларусі склалася лепшая сітуацыя. Спецыялісты спадзяюцца, што дадзеныя сачэнні дазволяць лепш зразумець асаблівасці біялогіі гэтага віду птушак і фактары, якія ўплываюць на яго дабрабыт.

***Анастасія Салановіч, БелаПАН.***



Зімовы рыбалоўны сезон 2013 -2014 года адкрыўся. *Фота Аляксея Капусціна.*

Адзін з нашых аўтараў, Яўген Самсонаў, ужо ўпаляваў першага шчупака.

# Стаўкі падатку на аўто складуць ад 390 тысяч да 1,3 мільёна – табліца з сумамі

**Стаўкі транспартнага падатку запісаны ў законапраекце, які паступіў з урада ў палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу.**

Прапануецца ўстанавіць наступныя стаўкі дзяржпошліны:

### на легкавікі для фізасоб

для легкавых аўтамабіляў масай менш за 1 тону — 390 тыс. рублёў, ад 1 да 2 тон — 650 тыс. рублёў, ад 2 і да 3 тон — 910 тыс., большыя за 3 тоны — 1,3 млн, прычэп да легкавіка — 130 тыс.

### на грузавікі для фізасоб і юрасоб

на аўто не большае за 3,5 тоны — 1,95 млн, ад 3,5 да 12 тон — 2,6 млн, большае за 12 тонаў — 3,25 млн, прычэп і паўпрычэп — 1,3 млн, аўтобус — 1,95 млн, матацыкл і матаролер — 130 тыс.

### на легкавікі для юрасоб

для легкавых аўтамабіляў масай менш за 1 тону — 650 тыс. рублёў, ад 1 да 2 тон — 910 тыс. рублёў, ад 2 і да 3 тон — 1,17 тыс., большыя за 3 тоны — 1,56 млн, прычэп да легкавіка — 390 тыс.

Палёгкі уласнікам новых аўтамабіляў (да 10 гадоў) не прадугледжваецца.

***СГ***



# Больш за 52274 чалавек падпісаліся супраць увядзення дзяржмытаў на аўто

**У інтэрнэце набірае абароты збор подпісаў супраць увядзення ў Беларусі дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.**

Пошліна ўстанаўліваецца праектам закона, які разглядаецца цяпер у парламенце. Мяркуецца, што яна будзе спаганяцца ўжо з 1 студзеня 2014 года адначасова з праходжаннем тэхагляду.

На пляцоўцы www.change.org, паводле звестак на 16 снежня (13:00), супраць увядзення дзяржпошліны выказалася ўжо 52 274 чалавекі. За суткі колькасць подпісаў вырасла ўдвая.

Подпісы ставяцца пад лістом міністру фінансаў Андрэю Харкаўцу. У пасланні гаворыцца: «У сувязі з тым, што ў акцыз кошту паліва ўжо закладзена сума адлічэнняў на рамонт дарог, лічым увядзенне новай пошліны немэтазгодным.

Гэты законапраект не ўлічвае той факт, што некаторыя аўтамабілісты выкарыстоўваюць транспарт у рэдкіх, выключных выпадках,ураўноўваючы іх з тымі, хто выкарыстоўвае аўтатранспарт пастаянна, а таксама ў камерцыйных мэтах.

Таксама гэты законапраект не ўлічвае той факт, што пры куплі аўтатранспарту, пры праходжанні ТА, прыйдзецца зноў плаціць пошліну, нягледзячы на тое, што папярэдні ўладальнік яе ўжо выплаціў».

Нагадаем, дзяржаўная пошліна за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху для большасці беларусаў можа скласці ад 3 да 10 базавых велічынь (адна базавая велічыня цяпер складае 130 тыс. рублёў).

Памер дзяржпошліны будзе залежаць ад дазволенай максімальнай масы транспартнага сродку, а таксама ад таго, хто з'яўляецца ўладальнікам.

Напрыклад, дзяржпошліна для фізічных асоб за легкавы аўтамабіль масай не больш як 1 т складзе тры базавыя велічыні (цяпер гэта 390 тыс. рублёў), больш за 1 т да 2 т — пяць базавых велічынь (650 тыс.), больш за 2 т да 3 т — сем базавых велічынь (910 тыс.), аўтамабіль больш як 3 т — 10 базавых велічынь (1,3 млн.), прычэп да легкавога аўтамабіля — адну базавую велічыню.

* * *

Адзначым, што анлайн-петыцыі падобнага выгляду ні да чаго не абавязваюць улады. Заканадаўства Беларусі прадугледжвае калектыўныя звароты грамадзянаў, на якія чыноўнікі абавязаныя даваць адказ. А калі сабрана больш за 30 подпісаў, грамадзяне маюць права запатрабаваць сустрэчы з адпаведным чыноўнікам.

Паводле ***Вячаслава Будкевіча, БелаПАН.***

Уладзімір Скрабатун

# «Таямніцы старадаўняга куфра»

**У мінулую пятніцу, 13 снежня, у Глыбоцкім Доме рамёстваў адкрыліся дзве персанальныя выставы мясцовых самадзейных мастакоў Віктара Казлоўскага і Віктара Дудкевіча.**

На адкрыццё сабралася досыць шмат наведвальнікаў – журналістаў і аматараў мастацтва. Шмат хто прыйшоў на такое мерапрыемства ўпершыню. Гэта не прамінула падкрэсліць і Святлана Скавырка, дырэктар Дома рамёстваў пры адкрыцці выставы. І гэта ўсцешвае!

Кажуць, што скульптар нічога незвычайнага не робіць, ён толькі сваімі рукамі, разцом прыбірае лішняе з матэрыялу. Няхай тое будзе мяккае дрэва ці цвёрды граніт – не важна. Так, прыкладна, паступае і творца Віктар Казлоўскі. Ён бярэ палена, бервяно незвычайнай формы, нават корч і прыбірае лішняе. Так атрымліваюцца скульптуркі і скульптурныя кампазіцыі людзей, насельнікаў лесу – птушак і жывёл. Сваю персанальную выставу Віктар Казлоўскі так і назваў «Райскі сад».

Віктар Казлоўскі на прэзентацыі сваёй выставы між іншым адзначыў, што раней яму нярэдка паступалі просьбы і прапановы ад калегаў афіцэраў, з якімі працаваў у мясцовай калоніі, вырабіць для іх розныя скульптуркі.

– А што сярод кантынгента калоніі няма добрых рэзчыкаў па дрэве?– пярэчыць Віктар.- Ёсць! Закажыце ў іх!

– Не!– кажа калега сп. Бухараў, – Ад іх скульптурак патыхае кепскай энергетыкай. А ад тваіх – пяшчотай!

Цяпер Віктар Казлоўскі працуе ў аддзеле культуры.

Самадзейнага мастака Віктара Дудкевіча я б ахарактарызаваў як творцу гісторыка-краязнаўчага кшталту. Ён сталы ўдзельнік Славянскага Базару ў Віцебску, Дзён беларускай пісьменнасці ў Глыбокім і Быхаве. Усюды прадстаўляе сваю творчасць і Глыбоцкі Дом рамёстваў.

Яго хвалюе лёс нашай гісторыка-культурнай спадчыны, лёс роднай беларускай мовы. Усё гэта і знаходзіць адбітак у яго творах.

Вось, напрыклад, яго карціна «Мой родны (пенапластавы)». Знікае своеасаблівая ідэнтычнасць Глыбокага як «маленькай Вільні». Мноства новых і старадаўніх будынкаў абшываюць пенапластам: знікаюць прыгожыя ліштвы, замест паўцыркульных вокнаў – простакутныя вокны ПВХ, замест старадаўняй чырвона-цаглянай сцяны – атынкаваны пенапласт. Пенапласт насоўваецца на горад! А мо й касцёл з царквой неўзабаве абшыюць пенапластам! І будзе «очань красіва»!

– Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!– пісаў некалі паэт Францішак Багушэвіч. З гэтымі словамі нашага класіка пераклікаюцца і творы Віктара Дудкевіча, якія прадстаўленыя на гэтай выставе. Аб балючым стане нашай мовы, гісторыі і культуры, падкрэсліваў у сваёй прамове Віктар Дудкевіч, прадстаўляючы прысутным сваю выставу.

Красамоўная на гэтым фоне алегарычная работа Віктара пад подпісам: «Яны крычалі: «Нам балюча і крыўдна!» Але людзі іх не чулі. Бо яны забылі і адмовіліся ад матчынай мовы». У творы – вялізны бульдозер трушчыць і ссоўвае ўсё на сваім шляху, наязджае на апошні бастыён беларушчыны – простую вясковую беларускую хатку. Засталося толькі імгненне, калі яна яшчэ стаіць, а праз секунды – будзе ляжаць, струшчаная пад гусеніцамі магутнай тэхнікі. На заднім плане – ужо толькі прывідная Беларусь, якая некалі была, і ў яе ролі выступае – беразвецкая царква, знесены шэдэўр дойлідства.

На гэтай выставе, акрамя маляваных твораў, Віктар Дудкевіч прадставіў і свае вырабы з дрэва – розны посуд: куфлі, лыжкі, відэльцы...

Вельмі добра, што ў нашым краі ёсць нямала таленавітых самадзейных мастакоў, сапраўдных творцаў, якія могуць паказаць не толькі харaство нашага краю, але і надзённыя праблемы нашага быцця.



**Самадзейны мастак Віктар Казлоўскі (у цэнтры на дальнім плане) прэзентуе прысутным сваю выставу «Райскі сад».** *Фота Ул. Скрабатуна.*




В. Дудкевіч. **Алегарычная карціна на тэму роднай мовы.**



В. Дудкевіч. **Мой родны (пенапластавы).**

# Мясцовыя выбары ўказам прэзідэнта прызначаны на 23 сакавіка 2014 года

**Мясцовыя выбары прызначаны на 23 сакавіка 2014 года. Указ № 557 «Аб прызначэнні выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць сёмага склікання» падпісаў 16 снежня Аляксандр Лукашэнка, паведамляе прэс-служба прэзідэнта.**

«Дата вызначана з улікам устаноўленых законам тэрмінаў на стварэнне тэрытарыяльных выбарчых камісій, падрыхтоўку і правядзенне іншых выбарчых дзеянняў у адпаведнасці з патрабаваннямі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў паведамленні.

Цэнтральнай камісіі Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў даручана ў адпаведнасці з яе паўнамоцтвамі арганізаваць правядзенне выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў і ажыццяўляць кантроль за выкананнем заканадаўства аб выбарах.

Дзяржаўныя органы і іншыя дзяржаўныя арганізацыі павінны забяспечыць выкананне ва ўстаноўленыя Выбарчым кодэксам тэрміны аднесеных да іх кампетэнцыі арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў.

Фінансаванне выбарчай кампаніі будзе ажыццяўляцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

*А. Серада, БелаПАН.*

# Мінімальны заробак з 1 студзеня складзе 1 млн 660 тыс. рублёў

**У Беларусі ўстаноўлены памер мінімальнай заработнай платы з 1 студзеня 2014 года. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў ад 14 снежня №1076.**

Месячны мінімальны заробак складзе з 1 студзеня 1 млн 660 тыс рублёў, заробак у гадзіну — 9 тыс. 890 рублёў.

З 1 студзеня 2013 года месячная мінімальная заработная плата была ўстаноўлена ўрадам у памеры 1 млн. 395 тыс рублёў, гадзінная — 8 340. З улікам індэксацыі месячная мінімалка за лістапад гэтага года складае 1 млн. 466 тыс. 230 рублёў, пагадзінная — 8 760.

*БелТА*

# Распрацоўку ўнутранага пашпарту грамадзяніна Беларусі плануецца завяршыць у найбліжэйшыя два гады

**Распрацоўку ўнутранага пашпарту грамадзяніна Беларусі плануецца завяршыць на працягу двух гадоў. Пра гэта паведаміў намеснік дырэктара РУП «Нацыянальны цэнтр электронных паслуг» Сяргей Руднеў на X Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Кіраванне інфармацыйнымі рэсурсамі», якая прайшла 13 снежня ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце, паведамляе прэс-служба ВНУ.**

Як расказаў Руднеў, сэрвісна-разліковая інфармацыйная сістэма, што распрацоўваецца ў Беларусі, заклікана замяніць папяровы пашпарт грамадзяніна пры ажыццяўленні плацяжоў, заказе сацыяльных, транспартных, медыцынскіх і іншых паслуг. У прыватнасці, выкарыстанне ID-карткі неабходнае для атрымання доступу фізічных асоб да паслуг, што прадастаўляюцца на Адзіным партале электронных паслуг, паведаміў спецыяліст.

Паводле яго слоў, для пашырэння доступу насельніцтва да партала цяпер падпісана адпаведная нарматыўная база і вызначаны два інфармацыйныя пасрэднікі — РУП «Белпошта» і «Белтэлекам». Такім чынам, грамадзяне змогуць атрымліваць даведкі з дзяржаўных органаў у паштовых аддзяленнях і пунктах калектыўнага карыстання «Белтэлекама», — расказаў Руднеў.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

# Палата прадстаўнікоў прыняла папраўкі ў Працоўны кодэкс, якія забараняюць дыскрымінацыю пры прыёме на працу на падставе ўзросту ці месца жыхарства

**Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на пасяджэнні 16 снежня прынялі ў другім чытанні папраўкі ў Працоўны кодэкс.**

Як паведаміла намеснік старшыні парламенцкай камісіі па працы і сацыяльных пытаннях Ларыса Багдановіч, дакумент прадугледжвае выкананне рашэнняў Канстытуцыйнага суда, якія датычацца забароны на дыскрымінацыю ў сферы працоўных адносін на падставе ўзросту ці месца жыхарства.

Законапраект прадугледжвае змяненне падыходаў да працы па сумяшчальніцтве кіраўнікоў, спрошчаную працэдуру ўзгаднення з работнікамі чарговасці працоўных адпачынкаў, а таксама адмену абавязковасці запаўнення камандзіровачных пасведчанняў.

Праект закона пашырае магчымасці па арганізацыі надомнай працы, а таксама ўстанаўлівае штодзённую працяглaсць працоўнага часу работнікам, для якіх устаноўлены сумаваны ўлік працоўнага часу, не больш як 12 гадзін у сярэднім за ўліковы перыяд.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

# Пакуль ніякіх зменаў у Правілах рыбалоўства няма

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

З наступленнем сапраўднай зімы рыбаловы-аматары масава пайшлі на вадаёмы і адразу ж выявілася штогадовая праблема, смеццевыя звалкі на ледзяным покрыве. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету становяцца ў ролі санітараў вадаёмаў, выяўляючы і спыняючы забруджванні, але хіба да кожнага вадаёма інспектара прыставіш. Праблема гэта агульная нашага выхавання адносінаў да прыроды. Колькі не карай, не прыбірай горад, лес ці возера, парадак будзе толькі там, дзе не смецяць.

Толькі за мінулы тыдзень снежня інспектарамі выяўлена і спынена 5 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, якія звязаны з забруджваннем лесу і лядовага покрыва вадаёмаў.

Знаходзячыся на лёдзе, шматлікія рыбаловы лічаць нормай выкінуць на ледзяное покрыва пустыя бутэлькі, слоікі, паперу, хоць усё гэта трапляе ў вадаём, забруджваючы яго і прыбярэжную паласу. Асобных грамадзян і назваць рыбакамі складана, проста – аматары выпіць, яны ж і кідаюць усё смецце.

**Для ўсіх рыбалоўаў-аматараў паведамляем, што пакуль ніякіх зменаў у Правілах рыбалоўства няма, не трэба паднімаць панікі і карыстацца чуткамі.**

Нагадваем таксама, што на азёрах Бярозаўскае, Карпінскае, Чачалі, Гулідаўскае, Крывое-2 арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства і набыццё пуцёвак абавязкова.

З наступленнем зімы грамадзяне і арганізацыі актыўна сталі нарыхтоўваць дровы, аднак, не заўсёды законным спосабам. Толькі за адзін тыдзень інспектары выявілі 4 факты незаконных парубак драўніны як у дзяржлясфондзе, так і на землях населеных пунктаў, у парушальнікаў канфіскавана больш 20 м.куб. незаконна нарыхтаванай драўніны.

Шмат можна пісаць пра такія парушэнні, ды толькі толку будзе мала, пакуль самі грамадзяне не зразумеюць, што чысціня лясоў і вадаёмаў залежыць ад нас саміх, мы, дарослыя, паказваем прыклад нашым дзецям, унукам.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей, мы зможам паставіць надзейны заслон парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства.

Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва.

Тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 2-86-70 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС)

Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.

# Бяспечнага Новага года!

У перадпачатку Навагодніх святаў народ спяшаецца купіць што-небудзь смачнае да святочнага стала, падарункі для блізкіх людзей пад ялінку і, натуральна, набывае разнастайныя салюты, «ракеты», феерверкавыя ракеты, бенгальскія агні і хлопаўкі – упрыгожыць сваю імпрэзу і зрабіць свята вясёлым хочацца ўсім. У крамах велізарны выбар падобнай прадукцыі, да таго ж у пярэдадне святаў актывізуюцца і прадаўцы «чорнага» рынку піратэхнікі. Аднак, жадаючы забавак, людзі часцяком забываюць пра элементарную асцярожнасць і атрымліваюць сур'ёзныя траўмы – лекарам даводзіцца лячыць апёкі, прышываць пальцы, змагацца за аднаўленне зроку. Але, на жаль, шнары і калецтвы, як, зрэшты, і непрыемныя ўспаміны застаюцца на ўсё жыццё.

Навагодняя ноч 2013 года не для ўсіх была радаснай – пры выкарыстанні піратэхнікі атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці 11 чалавек, сярод пацярпелых трое дзяцей. У Бабруйску ўвечары 31-ага снежня пацярпеў хлопчык 2007 г.нр., які знаходзіўся на вуліцы – петарда падарвалася і частка яе патрапіла пад шапку. На шчасце, апёк стаўся бяспечным. А ўжо праз пару гадзін пасля наступлення Новага года ў Бабруйскую бальніцу было дастаўлена дзіця 2002 г.нр. Петарда падарвалася побач дзіцяці, пашкодзіўшы яму вока. У Мінску пасля агляду лекарамі быў адпушчаны дахаты хлопчык 2003 г/нр., які ў выніку выбуху петарды атрымаў апёк шчакі. Сярод дыягназаў дарослых, якія пацярпелі ў навагоднюю ноч, – апёкі вачэй, кісцяў рук, адкрытая рана галавы.

Выратавальнікі могуць прывесці нямала выпадкаў, калі ракеты залятали на балконы і, прабіўшы шкло, станавіліся прычынай пажару. Таму, набываючы піратэхнічныя вырабы варта памятаць пра тое, што яны траўма- і пажаранебяспечныя.

І, каб пазбегнуць падобных непрыемнасцяў, не лішнім будзе яшчэ раз нагадаць асноўныя правілы бяспекі:

- пры куплі піратэхнічных вырабаў патрабуйце ў прадаўца сертыфікат адпаведнасці піратэхнічнага вырабу патрабаванням тэхнічнага рэгламенту мытнага саюза «Пра бяспеку піратэхнічных вырабаў», ці пратакол пацверджання класа пажарабяспечнасці, выдадзены НДІ ПБ і НЗ МНС Беларусі або ДНВА ПМ (Дзяржаўнае навукова-вытворчае аб'яднанне парашковай металургіі);
- правярайце наяўнасць інструкцыі па ўжыванні, яна павінна быць на рускай ці беларускай мове. У ёй пазначаецца: найменне вырабу, папярэджанне пра яго небяспеку, умовы і абмежаванні пры ўжыванні і абыходжанні, спосабы бяспечнай падрыхтоўкі да эксплуатацыі, пуску і ўтылізацыі, а таксама правілы захоўвання, дата вырабу і гарантыйны тэрмін, схема дзеянняў у выпадку адказу піратэхнічнага вырабу і пры ўзнікненні нештатнай сітуацыі;
- звярніце ўвагу на цэласнасць завадскога пакавання – пашкоджанняў на ёй быць не павінна;
- запускаць піратэхніку трэба толькі на пустцы, далей ад будынкаў і збудаванняў, а таксама аўтамабіляў. Пры гэтым, сачыць за тым, каб іншыя людзі знаходзіліся на максімальна бяспечнай адлегласці, указаным на пакаванні вырабу;
- перад запускам абавязкова азнаёмцеся з інструкцыяй;
- не запускайце піратэхнічныя вырабы, калі на вуліцы моцны вецер.
- захоўвайце піратэхніку як мага далей ад крыніц агню. Ні ў якім разе не трымайце на кухні і побач батарэй ацяплення: паступова награваючыся, вырабы могуць спрацаваць самаадвольна. Таксама не варта выкарыстоўваць для захоўвання вільготныя памяшканні. Калі прылада, начыненае порахам, спачатку адсырэе, а потым падсохне, то ў лепшым выпадку феерверк не спрацуе, а ў горшым – стрэліць з затрымкай у самы непадыходны момант.



І самае галоўнае – **купляйце піратэхнічныя вырабы толькі ў спецыялізаваных крамах**.

***Андрэй Андрыеўскі,*** інспектар нагляду і прафілактыкі, ***Анастасія Карчэўская,*** слухач 5-га курса ГІ.

# Беларускія аграсядзібы пераходзяць ад колькаснага да якаснага росту, заявіў прадстаўнік Мінспорту і турызму

**Беларускія аграсядзібы пераходзяць ад колькаснага да якаснага росту, заявіў дырэктар дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Вадзім Кармазін 10 снежня ў Мінску на канферэнцыі «Агра-экатурызм 2013: партнёрства і інавацыі».**

Паводле яго слоў, з 2007 года ў Беларусі назіраецца скарачэнне тэмпаў росту прыбытковасці аграсядзібаў і колькасці іх наведвальнікаў. Так, у 2007-2008 гадах рост прыбытковасці суб'ектаў аграэкатурызму склаў больш як 2.000%, у той час як у 2012 годзе – 18%. У 2007 годзе рост ліку турыстаў быў зафіксаваны на адзнацы амаль 1.800%, у 2012-м – 36%.

Як растлумачыў Кармазін, рэзкі рост колькасці аграсядзібаў і іх прыбытковасці ў 2007-2008 гадах быў звязаны з прыняццем 2 чэрвеня 2006 года ўказа прэзідэнта № 372 «Аб мерах па развіцці аграэкатурызму ў Рэспубліцы Беларусь», скіраванага на падтрымку аграэкатурызму.

У канцы 2012 года ў Беларусі было зарэгістравана 1.775 аграсядзібаў, цяпер іх колькасць вырасла да 2.100, паведаміў Кармазін. Летась прыбытковасць суб'ектаў аграэкатурызму склала 44 млрд. рублёў, або прыблізна 5 млн. долараў, аграсядзібы наведалі 222 тысячы турыстаў.



**На пярэднім плане – Якаў Серафімовіч, арганізатар конных вандровак па Глыбоччыне і Ушаччыне.**

У межах Года зялёнага і актыўнага турызму, якім абвешчаны 2013-ты, у Беларусі планавалася правесці 53 тэматычныя мерапрыемствы, 95% якіх ажыццёўлены, адзначыў прадстаўнік Мінспорту. У той жа час ён падкрэсліў, што сёлета не атрымалася правесці спецыялізаваную выставу па аграэкатурызме, а таксама атэстацыю хоць бы аднаго экскурсавода ў сферы экалагічнага турызму. «Ёсць спецыяльныя работнікі прыродаахоўных устаноў, якія актыўна праводзяць экскурсіі, але, мы лічым, яны павінны былі атрымаць прафесійную падрыхтоўку і стаць прафесійнымі экскурсаводамі», — растлумачыў Кармазін.

«Я думаю, мы гэта нагонім у наступным годзе», — падкрэсліў ён.

***Анастасія Салановіч, БелаПАН.***

## Віншаванкі

Змітра Лупача

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем радасці заўсёды
І настрою бадзёрага,
Не ведаць смутку ніколі
І ў жыцці ўсяго добрага.
Ніколі не маркоціцца,
Не бачыць засмучэння
І дні з усмешкай пачынаць,
Як у гэты Дзень Нараджэння!



*Ад супрацоўнікаў «ВГ»*

## МНС інфармуе
**на 17.12.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1004;
Гібель людзей – 134, з іх 1 дзіця;
Урон – 3916,49 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 47;
Гібель людзей – 8, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

